Opłatą pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 26. Вільня, Серада, 22-га красавіка 1925 г. Год I.

## Канец беларуска-польскага флірту.

У апошніх нумарох абшарніцкае часопісі „Słowo“ надрукована абшырная стацьця аб „полёнофільскім руху“ сярод беларусаў. Але, пэўне-ж, аўтар, пішучы яе, ня думаў, што яна акажацца *нэкралёгам* — пасьмертным успамінам аб гэтым „руху“.

Бо-ж, запраўды, рух гэны, не пасьпеўшы расцьвісьці, скандальна разьбіўся і памер. „Рэвалюцыя“ ў „Грамадзянскім Сабраньні“, пастанова агульнага сходу сяброў гэтага сабраньня аб роспуску Валэйшаўска-Павлюкевічаўскае „Часовае Беларускае Рады“, урэшце—паўторны раскол апошняе і выхад з складу яе больш грамадзка-чэсных сяброў, заяву якіх ніжэй друкуем,—усё гэта знакі таго, што *штучна* створаны—за даходныя канцэсіі, ці проста за гатоўку — „полёнофільскі рух“ ня мае ніякіх падставаў сярод шырокіх беларускіх масаў і арганізованага грамадзянства Заходняе Беларусі.

Ня мае падставаў—прынамся ў *тэй форме*, якую яму імкнуліся надаць нашы адміністратары з панам міністрам Тугуттам на чале. Іграць роль „казённых“ беларусаў адмовіліся ня толькі паважаючыя сябе дзеячы, але тыя крымінальныя элемэнты, якім гэтак шчодра былі даваны даходныя канцэсіі...

Побач з ніжэйпададзенымі матэрыяламі аб краху гэнага „казённага“ руху, трэба адзначыць факт, што *польская ўлада ў другой форме беларуска-польскага зьбліжэньня ня хоча.* Усім ведама, што ў леташнім годзе віленскія польскія дэмакраты распачалі перагаворы з некаторымі беларускімі грамадзкімі дзеячамі (у тым ліку з пасламі і сэнатарамі) аб стварэньні „Польска-беларускага Таварыства“, якое мела-бы на мэце зьбліжэньне польскага і беларускага грамадзянства на чыста культурным грунце. Быў напісаны статут Таварыства, які падпісалі, як закладчыкі, і палякі і беларусы. Статут быў пададзены ўладзе на зацьверджаньне.—Праўда, Таварыства так і не адкрылася, бо, з аднаго боку, палякі стараліся выкарыстаць яго дзеля сваіх палітычных мэтаў, з другога—беларусаў расхаладзілі пачаўшыяся ў той час рэпрэсіі ўлады ў адносінах да беларускага насяленьня. — Але статут ня быў узяты назад і пайшоў вандраваць па ўрадавым установым, ажно пакуль дэлегат ураду на Віленшчыну, п. Рачкевіч, не палажыў на ім рэзалюцыі: *Польска-Беларускае Таварыства ня можа быць зацьвярджана.*

Так, прынамся, паведамляе віленскае „Słowo“ ў нумары з 18 красавіка с. г.

Хаця група польскіх дэмакратаў, якія хацелі распачаць нейкую супольную — чыста культурную—працу з беларусамі, дужа малая і ніякіх уплываў ані на сваё грамадзянства, ані на польскую ўладу ня мае (—найлепшым доказам гэтага зьяўляецца адмова легалізацыі статуту Т-ва!),—аднак, трудна зразумець матывы п. дэлегата ўраду, адкінуўшага гэны статут. Аб іх можна толькі—дагадвацца...

Трэба думаць, што ўладу пужае кожная спроба зьбліжэньня ў барацьбе за „вашу і нашу волю“ тых ці іншых польскіх і беларускіх *апазіцыйных* груп наагул. І ў гэтым—доказ таго, што *ідэя* такога зьбліжэньня мае нейкую вагу: *яе-ж баяцца*! Але ў гэтым выпадку беларускія дзеячы зьвярнуліся, на наш пагляд, не паводле належнага адрасу: прадстаўнікі беларускіх працоўных масаў ня маюць аб чым гаварыць з прадстаўнікамі нават найбольш лібэральнай польскай буржуазіі з прычыны рэзкае супярэчнасьці паміж іх клясавымі інтарэсамі. *Працоўным па дарозе толькі з працоўнымі*,—працоўным беларусам з польскімі працоўнымі масамі.

„Le roi est mort. Vive le roi!“*) — гэтай сакрамантальнай фразай францускія манархісты некалі адзначалі цягласьць манархічнае ўлады, незалежна ад зьменнасьці асобы манарха.

Такую цягласьць мае і ідэя супрацоўніцтва беларускіх і польскіх працоўных масаў — на грунце перад усім супольнасьці клясавых інтарэсаў. І мы думаем, што пасьля краху „казённага полёнофільства“, пасьля ліквідацыі ўладай мёртвароджанага аб'яднаньня беларусаў з лібэральнай польскай буржуазіяй, на чарод стане *ідэя зьбліжэньня між тымі, перад кім яшчэ доўгая і цярністая дарога барацьбы за „вашу і нашу волю“*.

## Новы развал „Часовае Беларускае Рады“.

Мы атрымалі копію пісьма, пасланага ніжэйнадпісанымі асобамі ў рэдакцыю „Грам. Голасу“. Падаем яго бяз ніякіх зьмен:

У Часовую Беларускую Раду

ДЭКЛЯРАЦЫЯ.

Прыймаючы пад увагу:

1. Што Ч. Б. Р., як грамадзкая арганізацыя, паставіўшая сабе мэтай абарону правоў Беларускага Народу ў межах Польскае Рэспублікі і правядзеньне ідэі згоднага жыцьця Беларускага Народу з Народам Польскім,

2. Што Ч. Б. Р. за ўвесь час свайго істнаваньня мэты сваей ня толькі не дапяла, але нават страціла значэньне і павагу сярод польскага грамадзянства, ня ўмеючы ў годны спосаб паставіць справу абароны беларускага нацыянальна-народнага рэнэсансу перад урадовымі кругамі, бо нават не дабілася адчыненьня Беларускіх вучыцельскіх курсаў,

3. Што масавыя арышты і аблавы сярод беларускага сялянства зьнішчылі апошнія магчымасьці нясеньня ідэі Ч. Б. Р. на вёску, выказываючы адсутнасьць дзяржаўнай палітычнай думкі ў урадавых сфэрах у адносінах да беларускага пытаньня,

4. Што Старшыня Ч. Б. Р. п. Паўлюкевіч падчас гэных арыштаў праявіў праступную бязьдзеяльнасьць, а ў сваей працы сступіў са шляху грамадзкіх засад, вядучы самазванна, без пастановы Рады перагаворы з украінцамі і заключаючы з імі без даручэньня і апрабаты Рады нейкую ўмову, тасуючы ў адносінах да паасобных сяброў Рады ганебныя мэтады перакупаў, не даючы Прэзыдыуму справаздачы са сваей працы, не прадстаўляючы адчотнасьці і прыходаваньні і расходаваньні грошаў, робячы з Рады, грамадзкае арганізацыі, сваю ўласную гаспадарку.

Дзеля вышэй пададзенага заяўляем аб сваім выхадзе з Рады, адначасова просячы, каб не карыстацца з чужой прэсы, надрукаваць гэную дэклярацыю ў „Грамадзкім Голасе“.

(—) **А. Лаппа-Старжэнецкі, Г. Канапацкі, Я. Бэкіш.**

*) Кароль памёр. Хай жыве кароль!

## „Залежыць ад Расеі“...

Орган нямецкага міністра замежных спраў Штрэзэмана зьмясьціў вельмі цікавы артыкул аб справе перагляду сучасных граніцаў, накіненых Эўропе ў 1919 годзе.

Галоўнай мэтай Нямецкай палітыкі—на шляху да гэтага перагляду—было **разьбіць проціняменкі саюз Антанты**; і гэтая першая мэта ўжо **дасягнута**: радзіўшаяся ў 1914 годзе антанта памерла ў 1925 г. Англійскі ўрад прызнаў **права Нямеччыны на зьмену яе ўсходніх граніц...**

Нямецкая думка аб пераглядзе Вэрсальскага трактату дасьпела да агульнага зразуменьня сярод шырокіх кругоў грамадзянства дагэтуль варожых нямеччыне дзяржаў. **Усходнія граніцы Нямеччыны ня могуць лічыцца аканчальнымі.** Але грунтоўны іх перагляд будзе залежаць ад таго, ці будзе здаволена сваім граніцамі з Польшчай і з балтыйскімі дзяржавамі **Расея...**

У гэтым апошнім выпадку справу граніц аканчальна вырашыць **новая вайна** і новая міжнародная канфэрэнцыя—ня толькі аднэй Антанты.

Цікава адзначыць, што ўся варшаўская польская прэса ўдзяляе многа мейсца „канфэрэнцыям“, якія „доктар“ Павлюкевіч самазванна вёў з сваім сябрам па „палітычнай“ прафэсіі, украінскім адступнікам Оскілкай!

## І Аляксюк пратэстуе!

Як збанкрутавала „полёнофільская ідэя“ казённага тыпу, найлепш сьведчыць ніжэйпададзеная заява, прысланая ў Рэдакцыю за подпісамі грам. П. Сьвірыда і П. Аляксюка:

„Рада Таварыства Беларускае Школы ў Наваградку, выбраная грамадзкай дарогай, выражаючая волю сьвядомага беларускага грамадзянства, Таварыства, працуючага ў Наваградчыне болей 4-х гадоў, гэтым пратэстуе перад Урадам, грамадзянствам і законадаўчымі палатамі проці тых шыканаў, якія ў апошнія дні спаткала з боку мясцовай адміністрацыі ў форме беспадстаўных і да нічога не вядучых вобыскаў у паасобных сяброў Прэзыдыума Рады, якія мелі мейсца 4 і 6 красавіка с. г.

„Гэтыя акты гвалту маюць зусім выразна на мэце стэрарызаваньне паасобных сяброў Рады і здыскрэдытаваньне яе працы ў вачох грамадзянства.

„Рада Таварыства зьвяртаецца з гэтым да лепшай часьціны польскага народу і робіць гэта ў глыбокім пачуцьці свайго абавязку абароны беларускага нацыянальнага рэнэсансу, а таксама лічыць, што падобныя паступкі з боку прадстаўнікоў улады на мейсцы ў зародку нішчаць усялякую магчымасьць праўдзівага шчырага зьбліжэньня беларускіх народных масаў з польскаю дзяржаўнасьцю, а беларускай інтэлігенцыі, ідучай дарогай шчырай і лёяльнай спаўпрацы, замыкаюць усялякую магчымасьць апірацца ў гэтай працы на народныя масы.

„Лёяльна-дзяржаўнае становішча Таварыства не магло будзіць найменшага сумліву; за гэта гаворыць шэраг гадоў працы, за гэтым гавораць усе публічныя выступленьні і дэклярацыі, заўсёды падкрэсьліваючыя гэтае становішча“.

Наваградак, 8 красавіка 1925 г.

## Забарона „Польска-Беларускага Таварыства“

У „Słowie“ чытаем:

„П. Дэлегат Ураду адмовіўся залегалізаваць Польска-Беларускае Таварыства“.

Пане Тугутт: акуку?!

